**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№16(628)**
**19 красавіка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Уладзімір Ермаковіч і Даніїл Ермаковіч (справа).

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Ужо не першы раз нашыя чытачы прапаноўваюць аўтару гэтых радкоў зрабіць вандроўку ў мясціны іх дзяцінства.**

Ну, напрыклад, некалі з вандроўкі са спадаром Свяцілавам Пацэвічам нашыя чытачы даведаліся пра гаючую крыніцу ў Вярхоўі ды пра вёску Дразды.

Гэтым разам мы здзейснілі вандроўку з Даніілам Ермаковічам, прыватным размізнікам, у ягоную родную вёску Стураўшчыну, што ў ваколіцах Дзеркаўшчыны.

Можна толькі ўявіць, якой прыгожай гэтая вёска была яшчэ пару дзесяцігоддзяў таму. А цяпер – пустыя хаты, закінутыя сады, палі зарослыя чарнобыльнікам і чартапалохам.

Аднак, яшчэ засталіся рэшкі былой прыгажосці – вялізныя дубы, клёны, ліпы, вязы... Іх столькі шмат, што ствараецца ўражанне, нібы гэта – колішні старадаўні шляхецкі парк і ўся Стураўшчына знаходзіцца ў гэтым парку.

За ўсёй гэтай прыгажосцю сочыць Уладзімір Антонавіч Ермаковіч, пенсіянер, колішні меліяратар, пчалавод-аматар, сталы чытач нашай газеты. Ён спыняе несанкцыянаваныя рубкі дрэў каштоўных парод. Натуральна, каб быў мёд у пчолаў, павінны квітнець ліпы.

У Уладзіміра Ермаковіча – 38 вулляў. Праўда, пчалаводства справа клопатная, з мінулай (2011 г) зімы ацалеў толькі адзін вулей, з гэтай зімы пчалавод выйшаў з прымальнымі стратамі.

Уладзімір Ермаковіч спадзяецца, што гэты год на мёд будзе вельмі плённы.



## МНС інфармуе на 10.04.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 439;
Гібель людзей – 67, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2490,1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 23;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 147 550 000 руб.



## In Memoriam

**Смуткуем з прычыны заўчаснай смерці былога дырэктара СШ №3 г.Глыбокае, паэта-патрыёта, выдатнага чалавека**



**Віталя Рыгоравіча Гарановіча.**

**Выказваем шчырае спачуванне родным і блізкім памерлага.**

*Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Глыбоцкай раённай гімназіі, СШ №3 г. Глыбокае.*

Шумілінскі раён

# Каму патрэбна тая цэгла?

■ Чэслаў Якубовіч

**Як ні круці, а сапраўды, праўда, што рвецца заўсёды найперш там, дзе тонка.**

Вось і ў Шумілінскім раёне апынулася ў крытычным становішчы адно з буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў рэгіёна, керамічны завод у гарпасёлку Обаль. Яшчэ нядаўна, тут ганарыліся, што з мясцовай цэглы пабудавалі нават знакаміты храм Хрыста Выратавальніка, а таксама прыгожую царкву на Паклоннай гары ў Маскве. Але аднабокая арыентацыя на адзін расійскі рынак вылезла бокам, а плюс яшчэ здарыўся сусветны эканамічны крызіс. І вось ужо трэці год гэты завод гарue, бо ў Расіі з'явіліся сучасныя ўласныя вытворчасці, патрэба ў беларускіх будматэрыялах адпала. Унутры краіны попыт на обальскую цэглу таксама мізерны. Праўда, кіраўніцтва вобласці спрабавала адміністрацыйным чынам дапамагчы завадчанам: усім бударганізацыям Віцебшчыны было загадана набываць дарагую чырвоную цэглу толькі адсюль. Аднак цяпер і будаўнічая галіна перажывае цяжкасці, значна меней засталося ўзводзімых аб'ектаў. У выніку цяпер завод у пасёлку, на якім занята больш 600 чалавек, працуе два дні на тыдзень і вырабляе цэглу толькі адзін цэх. Працаўнікі задавальняюцца мізэрнымі заробкамі 75 % тарыфнай стаўкі. Летась аб'ёмы вытворчасці зменшыліся ўдвая, да 45 мільёнаў умоўных паддонаў цэглы. Філіял у Расонах ужо закрыты і выстаўлены на продаж. Большасць работнікаў завода людзі ўжо немаладыя, ды і ў гэтым населеным пункце цяжка знайсці новую працу. Калі прадпрыемства спыніцца канчаткова, то гэта стане жыццёвай катастрофай для большасці мясцовых жыхароў.

Докшыцкі раён

# Паваліў дым ... з парылкі

■ Станіслаў Раманчук

**З надыходам сапраўднай вясны і доўгачаканай цеплыні чамусьці ў нас паўсюдна прыбаўляецца розных вогненных здарэнняў.**

Звычайна ў гэты перыяд года павялічваецца рэзка пажаранебяспечны перыяд, бо пачынаюць паліць сухую леташнюю траву (у пачатку месяца чатыры суайчыннікі знайшлі там на палах сваю смерць). А вось у Докшыцкім раёне статыстыку пажараў дапоўніў выпадак там, дзе па прызначэнню быць не павінен. У райцэнтры пасярод выхаднога дня загарэлася грамадская лазня, уладальнікам якой з'яўляецца райкамунгас. Чорны дым, які ішоў адтуль, першым заўважыў прахожы, жыхар райцэнтра і адразу патэлефанаў па нумары 101 ў адпаведную службу выратавання. Праўда, пасля абеду наведвальнікаў у лазні было няшмат. Тры кліенты, калі паваліў дым на другім паверсе, і шасцёра работнікаў абслугоўваючага персаналу пакінулі памяшканне. Прыбыўшыя па выкліку пажарныя райаддзела МНС з узгараннем у лазні справіліся хутка. У выніку вогненнага інцыдэнту ў будынку найбольш пацярпела драўляная парылка саўны, яе часткова прыйдзецца замяняць і ачышчаць ад копаці. Матэрыяльны ўрон склаў крыху больш паўмільёна рублёў. Найбольш верагоднай прычынай пажару ў лазні Докшыц эксперты назвалі па гарачых слядах парушэнні правілаў мантажу і эксплуатацыі электрычных сетак і электраабсталявання. Дарэчы, пры аналагічным пажары толькі ўжо ў абласным цэнтры з інтэрната ААТ "Кераміка" прыйшлося эвакуіраваць 20 чалавек. На шчасце, там у Віцебску, як і ў Докшыцах, ніхто з людзей не пацярпеў.

Пастаўскі раён

# Калі ў галовах пуста

■ Кастусь Александровіч

**Проста да анекдатычных выпадкаў апошнім часам даходзіць, што толькі не крадуць нашы суайчыннікі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне ў судзе днямі былі вынесены пакаранні такім вось незвычайным злодзеям. Спачатку на выязным судовым пасяджэнні, якое праходзіла ў Доме культуры прыгарадннага аграгарадка Юнькі, разабраліся з двума маладымі мясцовымі беспрацоўнымі. Менавіта адсюль двое выпіўшых аболтусаў летась напярэдадні каталіцкіх Каляд скралі ... прыгажуню ёлку, каб потым ,магчыма, прадаць укардзеныя гірлянды і ёлачныя ўпрыгожванні. У выніку нічога ў іх не атрымалася, міліцыя аперагыўна адшукала зламыснікаў, а вось само навагодняе свята аказалася для людзей сапсаваным, бо новую ёлку з агеньчыкамі для вяскоўцаў не сталі паўторна ўстанаўліваць. За такі ганебны ўчынак суд пакараў 26-гадовага Аляксандра Ш., раней ужо судзімага, абмежаваннем волі на 1,5 года з накіраваннем на прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Яго падзельнік, маладзейшы на 4 гады, быў пакараны 1 годам абмежавання волі, праўда, з адтэрміноўкай накіравання ў папраўчую ўстанову. У падобную гісторыю трапіў і малады жыхар вёскі Рамелькі, які летась восенню паклаў вока на пусты нежылы дом на лясным хутары, разабраў, перавёз сабе дамоў і паспеў пераробіць пад уласны гараж. Аднак, у нежылой хаты быў гаспадар, апрацоўваў зямлю. Міліцыя і ў гэтым выпадку адшукала злодзея, які пакараны 2 гадамі абмежавання волі і буйным штрафам за знішчэнне чужой застрахаванай маёмасці. Адзінае, што асуджанаму далі адтэрміноўку выканання прыгавору за прызнанне сваёй віны і раскаянне.



# Лічба нумара

**5** па столькі авіярэйсаў штодзень у самы спрыяльны летні перыяд, як паведаміў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Калінін, куратар айчыннай транспартнай галіны ва ўрадзе, дамовіліся ажыццяўляць авіяперавозчыкі дзвюх краін па маршруце Масква-Мінск-Масква. Як вядома, у красавіку сур'ёзна ўскладніліся адносіны паміж авіяцыйнымі ўладамі дзяржаў-саюзнікаў і запахла нават прывідам новай, на гэты раз "паветранай" вайны паміж РБ і Расіяй. На шчасце, гэты канфлікт надоўга не зацягнуўся і беларусы ўрэшце рэшт пагадзіліся з тым, чаго дабіваліся іх маскоўскія калегі.

А перад гэтым бакі такой спрэчкі абмяняліся і гучнымі заявамі. Айчынны авіяперавозчык, кампанія "Белавія" публічна абвінаваціла расійскі "Аэрафлот" нават у спробе рэйдарскага захопу беларускай паветранай прасторы. Нашы чыноўнікі паведамілі, што расіянам не да спадобы быццам паспяховая дзейнасць беларускіх авіятараў. Так, намеснік гендырэктара "Белавіі", сын самага правільнага пісьменніка Ігар Чаргінец заўважыў, што беларускага авіяперавозчыка нават сусветны эканамічны крызіс не зачапіў. Па яго словах, "Белавія" толькі летась перавезла больш 1 мільёна авіяпасажыраў.

У выніку прырост паветранага пасажырапатоку ў 2011 годзе склаў 7 %, а ў больш спрыяльныя гады прыбаўка была яшчэ большая, нават на 10-15 % у год. Сапраўды, пакрыху беларуская нацыянальная і адзіная авіякампанія, канешне ж, дзяржаўная абзавялася апошнім часам сучаснымі заходнімі лайнерамі, практычна пазбавілася на замежных рэйсах састарэлых савецкіх самалётаў, якія болей спажывалі паліва, не адрозніваліся камфортам, а ў заходніх аэрапортах прызямляліся з недапушчальным узроўнем шуму.

Заходняя авіятэхніка больш зручная, эканамічная і надзейная, а таму і праз нашу Беларусь таксама актыўна пачалі развівацца і транзітныя перавозкі авіяпасажыраў. Раней вялізны аэрапорт "Мінск-2" большую частку сутак пуставаў, прымаў самалёты на вылет-прылёт, добра, калі пару разоў у гадзіну. Гэта ў заходніх аэрапортах Вены, Франфурта на Майне, Брусэля і іншых самалёты ўзлятаюць і садзяцца праз кожныя 3-5 мінут і адных тэрміналаў там некалькі. У нас да тэхнічнага пераасначшэння айчыннага авіяпарку за год перавозілі раней да 300 тысяч чалавек, а цяпер гэта лічба патроілася.

Тым больш наводзіць на роздум, з-за чаго практычна на пустым месцы узнік гэты канфлікт, а расійскі Мінтранс абвінаваціў авіяцыйныя ўлады Беларусі ў яго "аднабаковай" эскалацыі. Трэба прызнаць, што руская мелі рацыю, паколькі беларускі Мінтранс першы запатрабаваў ад "Аэрафлота" зменшыць колькасць рэйсаў з Масквы на Мінск з пяці да чатырох. Расіяне асабліва здзівіліся, што іх партнёры пайшлі на такі крок напярэдадні агульнага для абодвух дзяржаў свята – Дня Перамогі. У якасці кроку ў адказ яны проста забаранілі беларускім самалётам лётаць ва ўсе расійскія рэгіёны, за выключэннем сваёй сталіцы Масквы.

Расіян абурыла, як паводзіць сябе беларускі бок, які раней узгадніў праграму палётаў паміж населенымі пунктамі РФ і РБ у прысутнасці новага дзяржсакратара так званай Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоты. Праўда, пасля гэтага адбылася серыя тэлефонных перамоў высокапастаўленых чыноўнікаў і бакі пачулі нарэшце аргументы адзін другога. Пры дрэнным развіцці падзей прыйшлося б беларусам дабірацца ў Санкт-Пецярбург, Екацярынбург, Калініград, а летам і ў Сочы, Навасібірск толькі цягнікам, альбо на аўтобусах.

Праўда, шэраг пасажыраў з абодвух бакоў усё ж пацярпелі, ім прыйшлося здаваць раней купленыя білеты. У жыцці, здаецца, ужо дзейнічае Мытны саюз, імкнёмся да Адзінай эканамічнай прасторы, а на справе адбыўся казус. Як паказвае практыка, працэс інтэграцыі на постсавецкай прасторы найперш паміж намі, Расіяй і Казахстанам будзе доўгім і цяжкім. Калі такое адбываецца ў паветры, то што можна гаварыць, калі справы дойдуць рэальна да допуску на беларускі рынак расійскіх капіталістаў. Пакуль жа беларускі ўрад адступіў у "паветранай вайне" і да перарастання канфлікту ў палітычную разборку справа не дайшла. Але можна чакаць яшчэ новых такіх падобных "войнаў" паміж самымі блізкімі партнёрамі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.04.12 | | | | Пятніца 20.04.12 | | | | Субота 21.04.12 | | | | Нядзеля 22.04.12 | | | | Пнд. 23.04.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +4 | +12 | +11 | +9 | +11 | +16 | +12 | +7 | +11 | +18 | +13 | +9 | +11 | +16 | +13 | +9 | +8 | +11 |
| Ціск | 742 | 742 | 740 | 738 | 735 | 733 | 733 | 734 | 737 | 740 | 740 | 740 | 739 | 738 | 736 | 736 | 736 | 738 | 741 |
| Вільготнасць | 70 | 70 | 63 | 71 | 85 | 95 | 72 | 77 | 88 | 87 | 46 | 67 | 85 | 93 | 64 | 76 | 89 | 95 | 69 |
| Вецер м/сек | 3 В | 5 В | 6 В | 7 В | 7 В | 5 Ю-В | 4 Ю-В | 2 Ю | 3 З | 2 Ю | 1 Ю-В | 3 В | 2 С-В | 4 В | 3 Ю-В | 2 С-В | 2 З | 7 З | 8 З |

## Дзень за днём

**І сёлета зімой Беларусь засталася “лідарам” у СНД і ў Еўропе па росце спажывецкіх цэн, ужо болей паўгода апярэджвае ўсіх па тэмпах інфляцыі. За апошнія 5 гадоў знешні доўг РБ вырас у 21 раз, краіна залезла ў даўгавую яму і жыве не па сродках. У краіне падаражэлі з красавіка жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва, праезд у грамадскім транспарце, а таксама свініна. У Нацбанку РБ загаварылі аб неабходнасці вяртання людзям страчаных савецкіх укладаў, але пакуль грошай на гэта няма. Апошні званок у беларускіх школах сёлета прагучыць 30-31 мая, а ўступныя выпрабаванні па паступленні ў гімназіі пройдуць з 2 па 10 чэрвеня.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Родны дзядзя ў выгнанні сірыйскага лідара Рыфат Асад прадказаў хуткі крах рэжыму, у краіне настолькі вялікі ўзровень насілля, што пляменнік не ўцалее.

Малі. Пад ціскам санкцый і абмежавання доступу да рэгіянальнага Цэнтрабанку Афрыкі ваенныя путчысты паабяцалі хутка аднавіць у краіне існаваўшы канстытуцыйны парадак.

**КНДР.** Пасля рашэння аб запуску новай ракеты ЗША спынілі пастаўкі 240 тысяч тон харчавання, ужо амаль 20 гадоў гэта закрытая краіна адчувае сур’ёзны недахоп ежы.

**Балгарыя.** Прэм’ер-міністр Бойка Барысаў заявіў, што краіна канчаткова адмовілася ад пабудовы Расіяй занадта дарагой (7 млрд. $ ) другой атамнай станцыі на рацэ Дунай.

**Бірма.** Дэмакратычная партыя лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Аун Сан Су Чжы трыумфальна перамагла на давыбарах у парламент краіны, атрымала 43 з 45 месц.

**Сербія.** Прэзідэнт Борыс Тадзіч склаў дачасна свае паўнамоцтвы дзеля правядзення датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў адначасова з парламенцкімі і муніцыпальнымі.

**Расія.** Прэзідэнт РФ Д. Мядзведзеў адмовіўся памілаваць былога главу кампаніі ЮКАС алігарха Міхаіла Хадаркоўскага на падставе таго, што той аб гэтым яго не прасіў.

**Кітай.** Датуньскі электравозабудаўнічы завод адправіў першыя 2 свае машыны для выпрабаванняў у РБ, Беларуская чыгунка заказала сёлета 12 такіх грузавых электравозаў.

**Польшча.** Глава МЗС Р. Сікорскі параўнаў у Сойме РП цяперашнюю сітуацыю ў РБ з няпростай абстаноўкай у КНДР, якая не можа ўжо жыць без знешняй дапамогі Кітая.

**Венгрыя.** Пасля пазбаўлення за плагіят доктарскай дысертацыі, абароненай яшчэ ў 1992 годзе, прэзідэнт краіны Пол Шміт датэрмінова падаў у адстаўку, гэтага дабілася апазіцыя.

**Украіна.** Яшчэ 6 мільёнаў украінцаў па праграме выплат кампенсацый былым ашуканым укладчыкам Ашчадбанка СССР атрымаюць у 2-гі раз па тысячы грыўнях (па 120 долараў).

**Кітай.** Па дадзеных статслужбы КНР, за апошнія 5 гадоў заробкі кітайцаў выраслі ў 2 разы і дасягнулі рэкордных для самай густанаселенай краіны свету 550 $ у месяц.

**Венесуэла.** Хворы на рак Уга Чавес, паводле ацэнак і аналізу дадзеных медыкаў, як заявіў доктар Хасе Марніка пражыве яшчэ каля 7 месяцаў, максімум - да красавіка 2013 года.

**Украіна.** Іерархі украінскіх цэркваў і касцёла разам падпісалі пасланне прэзідэнту Віктару Януковічу з заклікам вызваліць з турмы былога прэм’ер-міністра Юлію Цімашэнка.

**Расія.** Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл асканадаліўся, як уладальнік супердарагога элітнага жылля ў цэнтры Масквы, царква назвала гэтыя факты спробамі дыскрэдытацыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусь непакоіцца, пацвердзілі ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў РБ, што Еўрасаюз і іншыя краіны Еўропы могуць забараніць ёй будаваць АЭС паблізу Вільнюса.

**Гомель.** Беларускія цукеркі савецкіх брэндаў “Аленка”, “Мишка на Севере” і іншыя фабрыкі “Спартак”, другіх вытворцаў РБ Расія дазволіла прадаваць толькі ў Беларусі.

**Гродна.** Работнікаў тытунёвай фабрыкі “Нёман” парадавала, што амерыканская кампанія British Ameriken Tobacco інвесціруе ў далейшае абнаўленне вытворчасці 5,5 млн. еўра.

**Мінск.** Кітайская кампанія-генпадрадчык “Віэктэчмаш” адмовілася з-за рознагалоссяў па цане ад праекту маштабнай рэканструкцыі Нацыянальнага аэрапорта “Мінск-2”

**Магілёў.** На радзіме А. Лукашэнкі, як паведаміла яго прэс-служба, самы высокі ў краіне ўзровень беспрацоўя, паўсюдна ў раёнах вобласці затрымліваліся заробкі работнікам.

**Мінск.** У гэтым навучальным годзе ў Ваеннай акадэміі Беларусі ствараць новы сёмы факультэт – ракетных войскаў і артылерыі, а вось набору сюды дзяўчат 2 гады не будзе.

**Гродна.** Адразу чатыры незалежныя журналісты і тэлеаператары атрымалі папярэджанні пракуратуры аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з тэлеканалам “Белсат”, па РБ - ужо 8.

**Валожын.** Райаддзел міліцыі распачаў крымінальную справу супраць вучня 8-га класа з вёскі Войганы, які спрабаваў разам з вучнем 4-га класа скрасці цяля з калгаснай фермы.

**Брэст.** Абласны суд апраўдаў гараджаніна, які адмовіўся праходзіць дактыласкапію па “Рэлігійных перакананнях” і адмяніў вынесены яму штраф у суме 20 базавых велічынь.

**Магілёў.** Непаўналетні хуліган на тралейбусным прыпынку збіў жанчынувадзіцеля, разбіў фару машыны і ўцёк, ніхто з пасажыраў не прыйшоў на дапамогу кіроўцу.

**Глуск.** Загадкавым чынам паблізу вёскі Веснава загінуў пасля працы цыврозы 54-гадовы механізатар, ягоны трактар перакуліўся, цела знайшлі ля меліярацыйнай канавы.

**Горкі.** Міністэрства культуры Беларусі абараніла гістарычны цэнтр горада пабудовы XIX стагоддзя ад разбурэння і зносу, як хацелі ўлады, у гэтых будынках будзе рэканструкцыя.

**Мінск.** Двое невядомых злачынцаў дзёрзкім чынам абрабавалі Свята-Елізавецінскі манастыр, звязалі вартаўніка і скралі з офісаў грошы і камп’ютары на больш 140 млн. руб.

**Гомель.** Жыхар горада пакінуў у прададзеным на рынку аўто расіянам усю выручку – 8,6 тысяч USD, праз трое сутак пакупнікі з Бранскай вобласці прывезлі яму грошы назад.

**Жодзіна.** Гонарам горада стаў пасля рэканструкцыі абноўлены сучасны стадыён “Тарпеда” з трыбунамі на 6542 месцы і дахам, ён адпавядае 3-ій катэгорыі УЕФА.

# Мінсельгасхарч павысіў закупачныя цэны на свініну, малако і прадукцыю раслінаводства новага ўраджаю




■ Андрэй Кажамякін, БелаПАН

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ўстанавіла фіксаваныя цэны на прадукцыю раслінаводства ўраджаю 2012 года і жывёлагадоўлі, што рэалізуецца для дзяржаўных патрэб. Адпаведныя рашэнні замацаваныя ў пастановах міністэрства № 20 і № 21, апублікаваных на Нацыянальным прававым партале.**

Згодна з пастановай № 20 закупачныя цэны на зерневыя і шэраг крупяных культур ураджаю 2012 года будуць павялічаныя ў сярэднім на 65%. Так, цэны на цукровыя буракі ўзрастуць прыкладна ў 2,5 разу, алейнае насенне рапсу — у 3,1 разу, грэчку — у 2,1 разу.

Закупачныя цэны, у прыватнасці, на кандыцыйныя буракі павялічацца са 140 (у 2011 годзе) да 350 тысяч рублёў за тону, на алейнае насенне рапсу — з 1 да 3,1 млн. рублёў за тону, грэчку — з 1,7 да 3,68 млн. рублёў за тону, піваварны ячмень — з 550 тысяч да 1,6 млн. рублёў.

У адпаведнасці з пастановай Мінсельгасхарча № 21 у Беларусі ў 1,7—2 разы павышаюцца закупачныя цэны на каровіна малако, буйную рагатую жывёлу (БРЖ) і мяса БРЖ, свіней і свініну, што рэалізуюцца для дзяржаўных патрэб.

Так, новая цана на малако гатунку "экстра" складзе 3,215 млн. рублёў за тону, вышэйшага гатунку — 2,77 млн. рублёў, першага гатунку — 2,555 млн. рублёў.

Закупачныя цэны на свіней узрастуць амаль у 2 разы. Цана на свіней для забою складзе ў залежнасці ад катэгорыі ад 8,943 млн. да 18,969 млн. рублёў за тону жывой вагі, на свініну за тону забойнай вагі — ад 17,072 млн. да 31,671 млн. рублёў.

Амаль у 2 разы павысяцца закупачныя цэны на буйную рагатую жывёлу. Цэны на БРЖ для забою складуць ад 5,418 млн. да 64,974 млн. рублёў за тону жывой вагі, за тону забойнай вагі — ад 13,984 млн. да 121,135 млн. рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Навапалацк.** На мясцовым хлебазаводзе на новай імпартнай лініі пачалі выпускаць да 8-мі найменняў смачнага пячэння, у месяц яго сталі адгружаць спажыўцам да 20 тон.

**Глыбокае.** Пасля Дня беларускага пісьменства з 9 па 13 верасня ў райцэнтры і ў Мінску вырашана правесці VIII фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм “Maqnificat-2012”.

**Полацк.** Да пажылых адзінокіх жыхароў раёна ўпершыню ў Беларусі пачалі ездзіць спецмашыны “хуткай душэўнай дапамогі” з медыкамі, псіхолагамі, цырульнікамі.

**Віцебск.** Маці пакаранага за тэракт у метро У. Кавалёва з атрыманага пасведчання аб смерці з жахам даведалася, што яе сына расстралялі ў Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка.

**Орша.** Ноччу з поезда на Маскву знялі і затрымалі “хуліганаў” – траіх апазіцыйных палітыкаў, якія збіраліся са сталіцы РФ вылецець у Брусель для сустрэчы з дзеячамі ЕС.

**Лепель.** Па прыгавору абласнога суда 37-гадовы жыхар райцэнтра, юрыст па адукацыі, асуджаны на 25 гадоў турмы за забойства падчас леташняга браканьерства інспектара аховы.

**Віцебск.** У папраўчай калоніі “Віцьба-3” пачалі прымусова карміць асуджанага актывіста Сяргея Каваленку, у свеце не лічаць яго злачынцам за вывешванне нацыянальнага сцягу.

**Верхнядзвінск.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць касіра банка, якая за год змагла ўкрасці больш 17 мільёна рублёў з рахунка страхавой кампаніі шляхам махінацый.

**Віцебск.** З-за пажару днём прыйшлося эвакуіраваць з гарадской стаматалагічнай паліклінікі амаль 160 чалавек, людзі не пацярпелі, агонь пашкодзіў частку абсталявання.

**Орша.** У ліку яшчэ 10 па вобласці раён найбольш пацярпеў ад ураганнага ветру: былі адключаны 3 падстанцыі, абясточаны 4 населеныя пункты, па вобласці – 30 ферм, 21 ЛЭП.

**Варапаева.** На беразе ляснога возера на тэрыторыі мясцовага лясніцтва Пастаўскі лясгас узвёў дом для паляўнічых, у гэтым аздараўленчым комплексе будзе лазня, зона адпачынку

**Віцебск.** Адразу два народныя калектывы дзяржкаледжа культуры і мастацтваў сталі пераможцамі ІІ Міжнароднага фестываля “Славянскі карагод”, які прайшоў у Смаленску.

**Докшыцы.** Адразу 9 жыхароў райцэнтра ў залік камунальных плацяжоў райкамунгасу разлічыліся з ім металаломам (1 кг 1560 рублёў) і сабранай макулатурай ( 1 кг 240 рублёў).

**Віцебск.** Шагалаўскія мясціны горада і касцёлы (у вобласці іх больш 90) наведаў падчас пастырскага візіту апостальскі нунцый Ватыкана архіепіскап Клаўдзіо Гуджэроцці.

**Полацк.** У ліку трох клубаў ФК “Полацк” не атрымаў ліцэнзію для ўдзелу ў 1-ай лізе чэмпіянату РБ па футболе за даўгі перад супрацоўнікамі і падатковымі органамі.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

Ксёндз Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

# Свята Божай Міласэрнасці ў Мосары

**Свята Божай Міласэрнасці ўстаноўлена ў Каталіцкім Касцёле благаслаўлёным Янам Паўлам ІІ 30 красавіка 2000 года, у сувязі з прылічэннем да ліку святых Фаўстыны Кавальскай – апостала Божай міласэрнасці, і называецца «нядзеляй Міласэрнасці Божай».**

Выбар гэтага дня невыпадковы, бо на яго прыпадае актава Уваскрасення Пана, якая завяршае святкаванне Хрыстовай пасхальнай таямніцы. Гэты перыяд у літургіі Касцёла найвыразней указвае на таямніцу Божай Міласэрнасці, якая найбольш поўна была аб'яўлена менавіта ў муцы, смерці і змёртвыхпаўстанні Хрыста.

Святая Фаўстына - Алена Кавальская (сапраўднае імя па-польску: Helena Kowalska). Вядомая як святая «Сястра Марыя Фаўстына Кавальская», манахіня з Ордэну Сёстраў Маці Божай Міласэрнасці ў Каталіцкім Касцёле, перадусім як апостал культу Божай Міласэрнасці.

Святая Фаўстына нарадзілася 25 жніўня 1905 года, як трэцяе дзіця ў шматдзетнай сям'і Марыяны і Станіслава Кавальскіх, земляробаў з вёскі Глагавец. Постаць святой Сястры Фаўстыны Кавальскай неразрыўна злучана з культам Божай Міласэрнасці. Сам Бог абраў яе як свой інструмент для распаўсюду Яго шанавання. Зрабіў яе сваім голасам. Гэтай простай, але пакорнай манахіні, Бог даверыў місыю Міласэрнасці. У дзяцінстве мусіла цяжка працаваць, у школе падставовай навучылася адзінае чытаць, пісаць і трохі лічыць. У шаснаццаць год пачынае працаваць у якасці хатняй прыслугі.

На дваццатым годзе жыцця пасля шматлікіх цяжкасцяў уступіла да Ордэну Сёстраў Маці Божай Міласэрнасці і пражыла там трынаццаць год. Працавала на кухні, у садзе, пекарні і на фурце ў некалькіх дамах кангрэгацыі, найдаўжэй у Плоцку, Вільні і Кракаве. Мела досвед моцных спакусаў супраць веры, пачуццё суцэльнай адарванасці ад Бога, а таксама хваробы і неразуменне з боку асяроддзя.



У 1931 годзе ёй з'явіўся Езус, Які прынёс вестку аб Сваёй Міласэрнасці ўсяму чалавецтву. Як піша святая Фаўстына ў сваім дзённіку: "Хрыстус загадаў ёй намаляваць убачаны ёю вобліх, у якім з Яго грудзей зыходзілі два прамяні — белы і чырвоны, і зрабіць надпіс: «Езу, давяраю Табе!»"

Шанаванне Божай Міласэрнасці вельмі хутка распаўсюдзілася па ўсім свеце, стаўшы для вернікаў сімвалам надзеі сярод хаосу і жорсткасцяў сярэдзіны ХХ стагоддзя. Гэтае свята, якое завяршае Вялікодную Актаву, у Мосарскай парафіі адзначалася асабліва ўрачыста.

Божая Міласэрнасць — гэта Вялікодны дар, атрыманы Касцёлам ад Хрыста ўваскрослага, дар, які касцёл дае ўсяму чалавецтву.

Сутнасцю культу Божай Міласэрнасці з'яўляецца надзея на Бога. Мы заўсёды павінны памятаць словы святой Фаўстыны: «Калі душа мая прыгнечана, я думаю толькі аб тым, што Езус поўны дабрыні і міласэрнасці, і няхай нават зямля выслізне ў мяне з-пад ног, я не перастану спадзявацца на Яго».

Прайшоўшы праз выпрабаванні, 5 кастрычніка 1938 году на трыццаць трэцім годзе жыцця адыходзіць да Пана Бога за вечнай узнагародай. Пахаваная ў Лагеўніках (частка Кракава) 7 кастрычніка 1938 году - ва ўрачыстасць Маці Божай Ружанцовай (была гэта таксама першая пятніца месяца). Пры кляштары ў Лагеўніках, дзе знаходзіцца магіла святой, існуе зараз Санктуарый Божай Міласэрнасці.

Культ святой распаўсюджваўся, і 21 кастрычніка 1965 году распачаўся фармальны інфармацыйны працэс адносна жыцця сястры Фаўстыны. Беатыфікаваная яна была ў Рыме 18 красавіка 1993 году Святым Айцом Янам Паўлам ІІ, і кананізаваная 30 красавіка 2000 года.

Пасля Святочнай Літургіі ў Мосарскай святыні парафіяне мелі магчымасць у доме святара пaглядзець цудоўны фільм пра Божую Міласэрнасць пад назвай: "Міласэрнасць — крыніца надзеі для свету" рэжысёра Малгожаты Пабіс. З радасцю і захапленнем усе людзі пасля Ўрачыстасці вярталіся дадому.

Міласэрнасць — гэта святло, якое Бог даравў нам у Святым Хросце. Не дазволім гэтаму святлу пагаснуць, а, наадварот, яно павінна ўзрастаць у нас з кожным днём і несці свету радасную вестку пра Бога – пераможцу, бо перамога Хрыста – гэта і нашая перамога праз Любоў і Міласэрнасць.

# Барысу Кіту, колішняму вязню глыбоцкай турмы, споўнілася 102 гады

## Яго настаўнікам малявання быў Язэп Драздовіч!

**Пад час нямецкай акупацыі Барыс Кіт быў арыштаваны нібыта за сувязь з партызанамі. Месяц знаходзіўся ў камеры смяротнікаў глыбоцкай турмы і мог быць расстраляны ў любы момант. Але лёсам яму было наканавана пасадзіць амерыканскіх астранаўтаў на Месяц.**

Паводле Ганна Анакер, Алег Улевіч, Budzma.org



Свет убачыў першы крок чалавека на Месяцы дзякуючы Барысу Кіту. У наўпростым сэнсе. Беларус вылічыў, як ажыццявіць жывую відэатрансляцыю з космасу. А тады, дарэчы, лічбавых тэхналогій не існавала. Уласна, і сам палёт на Месяц без Кіта не атрымаўся б — навуковец вынайшаў рэвалюцыйныя на той час від ракетнага паліва — вадкі вадарод. Не дзіўна, што яго імя захаванае ў капсуле часу ў Капітоліі, а ўсе ўзнагароды немагчыма пералічыць.

Нягледзячы на тое, што Барыс Кіт ніколі не меў беларускага грамадзянства, ён усё жыццё лічыў сябе беларусам.

6 красавіка яму споўнілася 102 гады.

Спадар Барыс сустрэў нас зухаватай усмешкай:

***— Нешта вы спазніліся, мяне ўжо пяцьдзясят чалавек павіншавалі. От як атрымалася: Хрыстос памёр, а я нарадзіўся. Але праходзьце, праходзьце. На ўсе пытанні адкажу.***

Зазваніў тэлефон — мы былі не апошнія, хто спазніўся з віншаваннямі. Тэлефанаваў Радзім Гарэцкі — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» з 1993 па 2001 гады.

– Вы былі ў самым эпіцэнтры, былі асабіста знаёмыя з людзьмі, пра якіх мы ў падручніках чытаем…

***— Дык у Беларусі заўсёды жылі цікавыя людзі. Прыгадайце хаця б Казіміра Семяновіча, вынаходніка шматступеннай ракеты. Ён жа беларускі да Вінчы! Беларусы часта пра космас марылі, напрыклад Язэп Драздовіч. Яго я асабіста ведаў, ён маляванне ў мяне выкладаў, я тады малы быў, таму пра космас не размаўлялі.***

— А потым самі настаўнікам сталі…

***— Жыў у Вільні — выкладаў матэматыку, а потым і дырэктарам гімназіі стаў. У мяне па-беларуску тысяча школяроў навучалася. Тады ў горадзе літоўцаў амаль не было — яўрэі, палякі ды беларусы. Але потым Сталін падараваў горад Літве — прыйшлі літоўцы, і мы мусілі з усім скарбам перяязджаць у Навагрудак.***

— Вы былі настаўнікам і ў гады Другой сусветнай вайны.

***— Гаўляйтар Кубэ не быў прыхільнікам Гітлера і спрыяў адкрыццю школ у Беларусі. Але я пайшоў далей і стварыў падпольны ўніверсітэт, за што мяне маглі расстраляць. Мяне выклікалі ў Мінск на размову, але пакуль я туды ехаў, немцы былі вымушаны ўцякаць, ім стала не да мяне.***

— Але ж Вы не пазбеглі турмы.

***— Так, але тое было раней. У маёй школе працавалі настаўнік, які быў звязаны з партызанамі. Калі немцы пра гэта даведаліся, то прыйшлі да мяне і спыталі яго адрас.***

***Я не мог адмовіць, але даў няправільны нумар хаты, каб той змог убачыць, што па яго ідуць, і збегчы ў лес. Так і атрымалася. За гэта мяне арыштавалі. Цэлы месяц я сядзеў у турме (у Глыбокім), а за сцяной расстрэльвалі людзей, штодня па 25 чалавек.***

— Дзе Вы былі найбольш шчаслівыя?

***— Я пражыў тры жыцці — у Беларусі, Амерыцы і Нямеччыне. Але лепш за ўсё адчуваў сябе ў ЗША. Амерыка — краіна абсалютнай свабоды, і толькі там я зразумеў, што гэта такое. Там у кожнага сапраўды ёсць шанец стаць тым, кім пажадае. У мяне, простага беларускага хлопца, гэта таксама атрымалася.***

***Але я ніколі не забываў, адкуль я. У бацькоўскай хаце мы заўсёды размаўлялі па-беларуску.***

— У Вашым жыцці было шмат дзіўных выпадковасцяў…

***— І звычайна шчаслівых. Напрыклад, матэматыкам я зрабіўся цалкам выпадкова. Заўсёды марыў быць гісторыкам. Калі прыйшоў падаваць дакументы, там было дзве чаргі — доўгая на гістарычны факультэт і кароткая на фізмат. Паленаваўся стаяць у доўгай, і гэта вызначыла мой лёс. Кім бы я быў у Амерыцы без матэматыкі? Мыў бы посуд у рэстарацыях.***

— А пачалі разлічваць змест ракетнага паліва.

***— Дарэчы, працу ў Амерыцы я таксама атрымаў дзякуючы выпадку. Прыйшоў на сустрэчу польскай суполкі, пазнаёміўся за келіхам віна з прафесарам Густавам Макшыцкім. Калі той даведаўся, што я матэматык, то дапамог мне атрымаць працу ў NAA — арганізацыі, якая займаецца касмічнымі даследаваннямі.***

— Вы нават стварылі беларускую калонію ў Саўт-Рыверы…

***— Усё жыццё я дапамагаў землякам. У прыватнасці, садзейнічаў атрыманню дакументаў.***

***Я быў не адзіны беларус, хто ўцякаў з Радзімы ад прыклятага камунізму. Мы ведалі, што там нас чакаюць рэпрэсіі. І таму ў канцы вайны мільёны беларусаў запрэглі коней, селі на вазы і рушылі на Захад.***

— Але ж і цяпер уцякаюць.

***— Я іх разумею. Гэта нармальна. Няхай з'язджаюць за сваёй марай. Усё магчыма. Галоўнае — мова. Гэта дарога да поспеху. Я ведаю шэсць моваў. Мяне цешыць думка, што беларусы жывуць ва ўсім свеце.***

— Ці сочыце Вы за тым, што адбываецца ў Беларусі?

***— Ужо не.***

***Але ў 90-я нават планаваў туды вярнуцца. У мяне была мара стварыць нацыянальны ўніверсітэт. Распрацаваў ідэю, шукаў фінансаванне, але на Радзіме гэта не выклікала імпэту.***

***А цяпер я занадта стары. Тэлевізар амаль не гляджу. Мне больш падабаецца з людзьмі размаўляць.***

— Чаму пасля такой паспяховай кар'еры Вы вырашылі пераехаць у Франкфурт?

***— У Франкфурт я прыехаў займацца ўніверсітэцкімі даследаваннямі, а застаўся праз Тамару. Выпадкова пазнаёміўся тут з маёй каханай, і потым вандравалі разам па ўсім свеце. Яна мне вельмі дапамагала, яе прыгажосць вабіла, і на навуковых кангрэсах да нас заўсёды падыходзілі знаёміцца першымі.***

— Як Вы здолелі ўтрымаць такую прыгажуню?

***— Мы ніколі не жылі ў адной кватэры. А разам ужо 40 гадоў.***

Тамара таксама прысутнічала на нашай сустрэчы. Вельмі прыгожая жанчына — чымсьці падобная да балерыны (насамрэч яна ўсё жыццё працавала сакратаркай у банку). Калі яны пазнаёміліся, Тамары было 35 гадоў, Барысу — 62. Па яе словах, Барыс вельмі моцна ўразіў яе — дасціпны, выкшталцоны і ладны мужчына, да таго ж, выбітны апавядальнік. Ён і цяпер такі.

***– Я ўжо прыдбаў месца для сябе і Тамары на самых старых рускіх могілках Еўропы. Гэта тут недалёка — у Вісбадэне, 40 км ад Франкфурта. Там ёсць праваслаўная царква. У нас будуць цудоўныя суседзі — графіня Варанцова-Дашкава і жонка Пушкіна Наталля Ганчарова.***

— Ці верыце Вы ў Бога?

***— Так, цяпер мне хацелася б верыць. Калі я быў маладым, дык не думаў пра гэта. Але дажываючы апошнія дні, я спадзяюся, што гэта не канец.***

# Мястэчка Глыбокае



■ **Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Старадаўнія пісьменьнікі, якія пахаваныя ў мястэчку Глыбокім

Надышоў час прыгадаць таксама і старадаўніх пісьменьнікаў, якія жылі, працавалі, пісалі свае творы і былі пахаваныя ў мястэчку Глыбокім. Гэтыя пісьменьнікі жылі ў XVII і ў XVIII ст.ст. Кім жа былі гэтыя старадаўнія пісьменьнікі, пра якіх сёньня ніхто не памятае і амаль ніхто нічога ня ведае. Гэтымі таямнічымі пісьменьнікамі былі манахі Кармэліты босыя. Менавіта яны былі першымі асьветнікамі Глыбоччыны, менавіта яны прывезьлі з сабой навуку і адукацыю ў мястэчка Глыбокае.

Што сабой уяўлялі літаратурныя творы таго часу? Як кожная эпоха літаратуры старалася адлюстраваць найважнейшае ў жыцьці чалавека дадзенага перыяду, так і ў XVII-XVIII ст.ст. найважнейшай часткай жыцьця чалавека, шляхціца была вера, а дакладней – сьмерць, якая таварышыла паўсюдна: войны, эпідэміі, халера, разбоі і піятыкі і гд.[1] Літаратура бароку была напоўненая глыбокай пабожнасьцю і моцнай верай, містыцызмам, экзістэнцыяльнай трывогай і гд. Вяртаючыся да матыву сьмерці, трэба заўважыць, што да яе прыйсьця кожны жадаў падрыхтавацца, каб патрапіць у неба. Такому стылю жыцьця спрыяла і адпаведная літаратура, якая ў большасьці была рэлігійнай літаратурай, а перад усім, пахавальнымі казаньнямі, якія былі вельмі папулярнымі і доўгімі, а часамі нават уяўлялі сабой тэалагічна-філазафічныя трактаты ці разважаньні на тэмы жыцьця і сьмерці. Акрамя таго былі вельмі папулярнымі розныя рэлігіныя практыкаваньні для душы, якія перакладаліся з іншых моў, а ў першую чаргу з лацінскай і італьянскай.

У вышэй апісаныя рамкі вельмі добра ўпісваліся пісьменьнікі, пахаваныя ў Глыбокім – манахі Кармэліты, якія мелі літаратурны талент і выдалі свае творы ў форме кніг, адны з першых кніг, кладучы такім чынам салідны фундамэнт пад будаваньне мясцовай літаратуры.

Першым пісьменьнікам у гісторыі мястэчка быў айцец Язафат Тышкевіч, які надрукаваў першую кнігу, што тычылася Глыбокага. Гэта было ***"Пахавальнае казаньне..."*** з 1645 г., якое прамовіў айцец Язафат у мястэчку падчас пахаваньня полацкага земскага суддзьзі Аляксандра Тышкевіча. Аднак, айцец Язафат Тышкевіч, будучы першым глыбоцкім пісьменьнікам, на жаль, быў пераведзены ў Варшаву, дзе быў спаведнікам і духаўнікам караля Уладыслава IV Вазы, а пасьля і караля Яна II Казіміра Вазы.

Акрамя айца Язафата Тышкевіча варта ўзгадаць таксама і іншых выдатных пісьменьнікаў-манахаў, пахаваных у мястэчку Глыбокім.

### Цырыль Гарцэвіч (?-1710)

Адным з першых пісьменьнікаў, пахаваных у Глыбокім, быў айцец Цырыль ад Маці Божай з Гары Кармэль. Сьвецкае імя яго – Ян Гарцэвіч, родам з ваколіц Брацлава на Падоллі. Уступіў у Кракаўскі кляштар 5 жніўня 1664 г.. У 1682 г. быў абраны першым прыёрам у Гародні. Пасьля быў прыёрам у Чэрнай, Кракаве і Вільні. Памёр айцец Цырыль у 1710 г. у Глыбокім, дзе і быў пахаваны ў падзямельлях кляштара.

У 1695 г. айцец Цырыль Гарцэвіч напісаў: ***„Exhortację na regułę naszą"*** – па беларуску *„Адхартацыя на наш статут"*. Гэтая адхартацыя ўяўляла сабой маральныя павучэньні для манахінь Кармэлітанак босых на тэму іх манаскага статута.

### Валяр'ян Яцына (1675-1757)

Айцец Валяр'ян ад сьв. Бракарда быў яшчэ адным пісьменьнікам, які памёр у Глыбокім. Сьвецкае імя – Аляксандар Яцына, сын Канстантына і Катажыны Шымкевіч, нарадзіўся ў 1675 г. у Плоцкім ваяводзтве. Вечныя шлюбы склаў у Вільні 9 кастрычніка 1704 г. У 1727-30 г. працаваў у Глыбоцкім кляштары. Пасьля быў прыёрам у Гародні, Бердычове і гд. Памёр у 1757 г. у Глыбокім і быў пахаваны ў падзямельлях кляштара Кармэлітаў.

У 1752 г. айцец Валер'ян Яцына выдаў друкам аж 4 свае кнігі:

***„Ćwiczenia duchowe"***. – *«Духоўныя практыкаваньні»;*

***„Postępek duchowy"***. – *«Духоўны прагрэс»;*

***„Tarcza z imion Jezusa, Marii, Józefa złożona"***. – *«Шчыт складзены з імёнаў Езуса, Марыі, Язэпа»;*

***„Przewodnik ucznia katolickiego do Przenajśw. Komunii pierwszy raz przystępującego"***. – *«Праваднік каталіцкага вучня, які першы раз прыступае да Найсьвяцейшай Камуніі».*

Кнігі айца Валяр'яна былі духоўнымі трактатамі аб унутранай працы над сваёй душой. Аднак апошняя кніга была перакладам з італьянскай мовы. Гэта сьведчыць, што айцец Валяр'ян быў вельмі адукаванай асобай і добра валодаў італьянскай мовай. Такая выбітная постаць была пахавана ў Глыбокім.

### Уладыслаў Евасевіч (1709-1788)

Варта прыгадаць асобу айца Уладыслава ад сьв. Дзіяніза (сьвецкае імя Ігнацы Евасевіч). Нарадзіўся ён у 1709 г. у Жамойціі ў мясцовасьці Палюбіны. У Глыбокім склаў вечныя шлюбы 14 лютага 1737 г. У 1758 г. быў абраны прыёрам у Глыбокім. Пачаў разбудову і аднаўленьне Глыбоцкага кляштара. У 1760 г. у Рыме быў абраны правінцыялам Літоўскай правінцыі Кармэлітаў. Адбудаваў Вострую Браму ў Вільні пасьля пажару 28 траўня 1760 г.. Пабудаваў капліцу Езуса Укрыжаванага пры касьцёле сьв. Тэрэзы ў Вільні, а таксама новую галерэю са сходамі да капліцы Вастрабрамскай. На ўсе гэтыя рамонты і будоўлі грошы ахвяравалі Глыбачане – 15 тысяч злотых даў глыбоцкі кляштар. Глыбоцкі кляштар фінансаваў таксама і фрэскі ў касьцёле сьв. Тэрэзы.[2] У 1769 г. айцец Уладыслаў Евасевіч быў ізноў абраны прыёрам Глыбокага, а ў 1788 г. айцец Уладыслаў памёр у Глыбокім, дзе і быў пахаваны ў падзямельлях кляштара Кармэлітаў.

Акрамя сваіх вялікіх заслуг айцец Уладыслаў Евасевіч надрукаваў у 1762 г. кнігу пад назвай: ***"Korona całego Roku, tyle drogiemi kleynotami ile Świętych Pańskich, przykładami ozdobiona. Jaśnie oświeconej Księżnie Imci Barbarze Wojewodzinie Nowogrodzkiey. Na znak wieczney wdzięczności za pańskie dobrodzieystwa jako hoyney Fundatorce i Dobrodziejce Zakonu swego, od xiędza Władysława od św. Dionizego Karmelitów Bosych Prowincyi Litewskiey Prowincjała,"*** – па-беларуску *„Карона ўсяго года, прыкладамі аздоблена столькімі дарагімі кляйнотамі, колькі ёсьць Сьвятых. Ясна Асьвечанай Яемосьці Барбары, жонцы Ваяводы Навагрудзкага. На знак вечнай удзячнасьці шчодрай Фундатарцы за яе дабрадзействы свайму Ордэну, ад ксяндза Ўладыслава ад сьв. Дзіянізія, правінцыяла Літоўскай правінцыі Кармэлітаў босых."*

Гэтая кніга пабудаваная на аснове каляндара і распавядае пра ўсіх сьвятых, якіх сьвяты сьвяткуюцца на працягу года. Свайго роду рэлігійны каляндар. Варта памятаць, што аўтар гэтай кнігі пахаваны ў Глыбокім.

### Рамуальд Мельчарковіч (1691-1772)

Айцец Рамуальд ад сьв. Шчэпана таксама быў адным са старадаўніх пісьменьнікаў, які памёр у Глыбокім. Яго сьвецкае імя Язэп Мельчарковіч, быў сынам Якуба і Гэлены. Нарадзіўся у Познані. Уступіў у кляштар у Кракаве 24 сьнежня 1712 г. У 1730 г. быў абраны прыёрам у Познані, пасьля быў прыёрам у Чэрнай, Варшаве, Вільні, Гародні. Разбудаваў кляштар Кармэлітаў у Познані. У 1772 айцец Рамуальд памёр у Глыбокім, дзе і быў пахаваны.

Айцец Рамуальд напісаў у 1742 г. кнігу: ***"Waga y uwaga śmiertelnego życia na pogrzebowym kazaniu W. M. P. Katarzyny z Niepokoyczyckich Domasławskiey Półkownikowej Artyl. W. X. Litt. Starościny Berestecznickiej w herbowym Pocieiu, albo wadze zważona a W. Panu Janowi Domasławskiemu w herbowym Nałęcza klejnocie, przez X. Romualda od św. Szczepana przeora Karm. Bosego, konwentu grodzieńskiego"***,– па-беларуску *"Вага і ўвага сьмяротнага жыцьця на пахавальным казаньні Вяльможнай Пані Катажыны з Непакайчыцкіх Дамаслаўскай, жонкі палкоўніка артылерыі ВКЛ, жонкі старасты Берасьцечка з гэрбам Пацеям, альбо вагай зважана а Вяльможнаму Пану Яну Дамаслаўскаму з гэрбам кляйнотам Налэнча, праз ксяндза Рамуальда ад сьв. Шчэпана прыёра Кармэлітаў Босых гарадзенскага кляштара."*

### Аўрэлій Бронец (1735-1773)

Яшчэ адным пісьменьнікам, пахаваным у Глыбокім, быў айцец Аўрэлій ад сьв. Казіміра. Сьвецкае імя – Людвік Аўгуст Бронец, быў сынам Ежага і Анны, нарадзіўся 28 жніўня 1735 г. у Ламнянах. Вечныя шлюбы склаў у Глыбокім 28 жніўня 1751 г.. Вучыўся у Познані, быў прафэсарам тэалогіі ў Гародні, таксама быў у Рыме. У 1772 г. быў абраны прыёрам Глыбокага. Памёр у 1773 г. у Глыбокім.

У 1769 г. айцец Аўрэлій Бронец надрукаваў сваю кнігу: ***„Kazanie podczas uroczystej kanonizacji św. Józefa od Matki Bożej Kalasankcjusza. Szkół pobożnych Fundatora. Przez x. Aurelego Augustyna od św. Kazimierza, Karmelity Bosego na ten czas aktualnego św. Teologii profesora, miane w kościele Wiłkomirskim XX Scholarum Piarum roku 1769 dnia 4 lipca,"*** – па беларуску *„Казаньне падчас урачыстай кананізацыі сьв. Язэпа ад Маткі Божай Каласанца, Фундатара пабожных школаў, выглашанае 4 ліпеня 1769 г. ў Вількамірскім касьцёле Айцоў Піяраў. Праз ксяндза Аўрэлія Аўгустына ад сьв. Казіміра, Кармэліта Босага, на той час прафэсара сьвятой тэалогіі."*

Гэтая кніга ўяўляе сабой тыповае XVIII-вечнае казаньне, якое распавядае пра жыцьцё і дзейнасьць фундатара заснавальніка піяраў. Казаньне мае шмат лацінскіх цытатаў з Евангельля.

### Падсумаваньне

Глыбоцкія пісьменьнікі XVII-XVIII ст. былі прадстаўнікамі рэлігійнага нурту[3] літаратуры эпохі бароку ў Рэчы Паспалітай. Былі асобамі вельмі адукаванымі, валодалі апроч лацінскай мовы яшчэ некалькімі заходнімі – італьянскай, нямецкай, французкай. Акрамя таго шмат чыталі, ведалі амаль усё ім сучасныя літаратурныя творы. Мелі вялікае паважаньне сярод шляхты, магнатэрыі і духавенства. У іх творах бачныя агульна-заходняэўрапэйскія літаратурныя тэндэнцыі, а акрамя таго некаторыя спецыфічныя рысы сарматызму, што робіць іх творы ўнікальнымі на фоне эўрапэйскай літаратуры бароку.

Бяз сумневу, нам, Глыбачанам, ёсьць кім ганарыцца! Творы гэтых пісьменьнікаў павінныя быць абавязковымі падчас заняткаў літаратуры на Глыбоччыне, а ў гонар саміх пісьменьнікаў варта было б пабудаваць калі ня помнік, то прынамсі памятную шыльду аб тым, што косьці гэтых выбітных асобаў па сёньняшні дзень знаходзяцца ў Глыбокім у падзямеллях былога кляштара Кармэлітаў босых.

***Працяг будзе.***



**Кармэліцкі касьцёл сьв. Тэрэзы ў Вільні, якім апекаваліся глыбоцкія Кармэліты.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*








**Так выглядалі манахі Кармэліты босыя (злева).**

**Заўвагі:**

[1] Літаратура таго часу альбо, інакш кажучы, літаратура барока мела таксама і іншыя адзнакі, як апісаньне гістарычных падзей, сатыры, дыяруюшы, мэмуары і гд. Я хачу засяродзіць сваю ўвагу на асаблівасьцях твораў пісьменьнікаў, пахаваных у Глыбокім, якія былі прадстаўнікамі толькі рэлігійнай літаратуры.

[2] Сёньня Глыбачане могуць ганарыцца, знаходзячыся ў Вільні ў Вострай браме, таму што дзякуючы іх продкам касьцёл сьв. Тэрэзы і Вострая брама існуюць. А аўтар усіх гэтых пабудоваў пахаваны ў Глыбокім.

[3] Літаратурнай плыні.

